# ДЗЯННІЦА

Вестка Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.

Цана асобнага № усюды 25 кап.

**ВАРУНКІ ПЕРАДПЛАТЫ:**

| | |
|---|---|
| На год | 8 р. — к. |
| „ паугода | 4 „ 50 „ |
| „ 3 месяцы | 2 „ 15 „ |
| „ 1 месяц | — „ 75 „ |
| За граніцу на год | 20 р. — „ |

**Перамена адрысу 40 кап.**

**Адрэс рэдакцыі: Птрг., Знаменская, 36. Тэл. 253—49.**

№ 5. Субота, 23 марта. **Выходзіць ня меньш чатырох разоу у месяц.** Пецярбург 1918 г. I-й год выданьня.


## Ад Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.

У Петраградзі астаецца атдзел Бел. Нац. Камісарыяту. Камісарам назначан гэтаго атдзелу тав. І. ЛАГУНЪ.

Адрэс атдзелу; Петраград, Баскоу, 22, кв, 16.

---

**Юридическій Отдѣлъ Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата,**

имѣя въ виду кодифицировать всѣ матеріалы по обычному праву Бѣлоруссіи, обращается ко всѣмъ организаціямъ и учрежденіямъ, а также и къ частнымъ лицамъ съ просьбой предоставить таковые матеріалы въ постоянное, либо временное, распоряженіе Отдѣла.

Расходы, связанные съ пересылкой и доставкой, могутъ быть возмѣщены.

**Юридическій Отдѣлъ Бѣлор. Націон. Ком.**

(Баскоу, 22, кв. 16).

---

## ОТЪ ЮРИДИЧЕСКАГО ОТДѢЛА БѢЛОРУССКАГО НАЦІОНАЛЬНАГО КОМИССАРІАТА.

**При Юридическомъ Отдѣлѣ** Бѣлорусскаго Національнаго Комиссаріата бѣлорусскому населенію **даются справки** по всѣмъ **вопросамъ юридическаго характера.** Консультація **отъ 12 до 2 час. дня ежедневно,** кромѣ дней неприсутственныхъ.

*Юридическій Отдѣлъ Б. Н. К.*

---

## ДА ЧЫТАЧОУ.

С прычыны выязду Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту з Пецярбургу, радакцыя „Дзянніцы“ так сама пакідае Пецярбург. Вось гэты нумар радакцыя вымушана выпусціць апошнім у Пецярбурзі. Дачасна, пакуль газэта цвёрда асталюяцца — усякую карэспадэнцыю, пісьмы, рукапісы і грошы на яе імя просім перасылаць па адрысу вось якому: Москва, Московскій союзъ потребительных обществ, 2-й Переведеновскій пер., с. д., Ф. С. Станилевичу с передачею редакціи газеты „Дзянніца“.

*Радакцыя.*

---

## ПАВЯДАМЛЕНЬНЯ.

**Беларускі Нацыянальны Камісарыят пераяхджая у Масаву. У Пецярбурзі застаецца філія, якая пераехала на другую кватэру (Баскоу 22, кв. 16). Адрыс Камісар'яту у Маскве будзя паведамлян праз газэты.**

*Сакратарыят.*

*Пецярбург, 15 марта.*

Замірэньне паміж Расеі і яе ворагамі зрабілася. Іншаго скутку дзеля равалюцыйнае Расе ня было, але тыя, хто мус цца шукаць ратаваньня рэвалюцыі у вядзеньні вайны даляй, ня хочуц бачыць таго, што яе вясці нельга.ъ Трэба крыху перадыхнуць, наладзіць папсаваушаяся жыцьцё, замацаваць тыя правы, якія дала працоунiку вялікая равалюцыя.

Гэта бліжэй усяго датыркаецца тых мейсцоу, дзе да апошняго часу махала сваімі чорнымі крыламі вайна. Да ліку гэтых мейсцоу належыць і наша Беларусь, каторая яшчэ дасюль прымушана чакаць усякіх нападкау з боку ворага, ня глядзючы на тое, што замірэньне ужо падпісана і замацовано (ратыфіковано), Та там, та тут, каля жалезных дарог збіраюцца банды з немцау, нашых паноу, расейскіх ахвіцэрау. Яны выганяюць прэдстаунікау народнае уласьці, устанауляюць той устрой, які быу да равалюцыі, памагаюць панам вярнуць свае маёнткі і т. д. Коратка гаворучы, Беларусь, суседзячы з Польшчай, якая па чуткам уходзя у хаурус з міжэурапейскімі дзяржавамі, павінна баяцца, што яна будзя прымушана адцурацца ад усіх заваёвау равалюцыі пад націскам нямецкае і польскае буржуазеі' расейскіх і беларускіх контарравалюцыанэрау.

Палажэньне Беларусі яшчэ тым горш, што у згодзе аб замірэньні нічога ня гаворыцца аб долі яе зямель: ці яна будзя належаць да Гэрмані, ці да Польшчы, ці Расеі, або-ж будзя асабліваю распублікай у хаурусе с адным з сваіх суседзяу. Было-б яшчэ крыху лепяй, каб уся Беларусь находзілася у адным кавалку, а то яна цяпер разорвана на часткі. Ці збяруцца гэтыя часткі у мейсца-нявядома, бо ізноу такі кажам: варункі замірэньня аб долі Беларусі ня даюць ніякіх указау.

Што-б ні чакала нашу родную Беларусь, як бы над ею ні глуміліся усясветныя угнятацялі, мы надзеямся і верым, што сьвятая і вялікая думка, што радзілася у вагні равалюцыі аб самавітасці і управі народнай ня памрэ у беларуса. Калі гэтая думка будзя жыць, та Беларусі ня усцішны ні польскія паны, ні нямецкія грабіцялі, якім яшчэ далёка да таго, каб шанаваць правы народу. Цяпер ужо ня тыя часы, калі можна было панаваць і уціскаць народ дзеля свае выгады. Хваля равалюцыі дойдзя і да нямецкіх бургярау і залie іх падкасць да нажывы.

Ня глядзючы ні на што, нехай-жа жыве і шырыцца на Беларусі зоу:

„Працавітая бедната усіх краёу-злучайся“!

Гэты зоу задушыць злосны шып варагоу працоунаго народу.

Надовячы, 18 марта, у некатарых сталічных газэтах былі надрукаваны весткі аб тым, што заходная частка Беларусі да сполку Мінскае губэрні адойдзя да Польшчы, паміж якою і Гэрманіяй цяпер вядуцца перамовы аб хаурусе.

Калі гэта праўда, та такі паварот дзела мае натта кепскі рахунак дзеля Беларусі, бо яна уходзячы у Польшчу, а з ею разам у Гэрманію, павінна будзя вытрымаць на сваіх плечах усю цяжасць нямецкае імперыялістычнае палітыкі. Маладая, ня абмацаваушаяся дэмакрація Беларусі

## АД РАДАКЦЫІ.

**С тае прычыны, што пераезд Беларусскаго Нацыянальнаго Камісарыяту у Маскву крыху затрымауся, радакцыя змагла надрукаваць у Петраградзі яшчэ колькі нумарау «Дзянніцы».**

**РАДАКЦЫЯ.**

## Паведамленьня.

Нас просяць павядаміць, што: „Камітэт Беларускаго обчаства помачы ахвярам вайны“ зачыніуся.

Усе справы па бежанскаму пытаньню перададзяны бежанскаму атдзелу Бел. Нац. Камісарыяту, да якога і просяць бежанцау звертацца.

## Таварышы работнікі і селяне!

**Пішэця усе аб усім, дзе што робіцца у вас на заводах і хвабрыках, па мястэчках і гарадох. Паведамляйця аб равалюцыйным руху, аб забастоуках, аб працы валасных камітэтау.**

**Хай «Дзянніца» будзя вашай газэтай. Шырця яе між працоуным людам, збірайця перэдплату.**

**Чытайцясамі і давайця знаёмым.**

